

# ЯЎГЕН ГУЧОК

# Сэрцам і думкай

ВЕРШЫ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1994

## Радзіма

У гонар твой князі і каралі,
Паэты і героі дбалі многа,
А для мяне ж ты — месца на Зямлі,
Дзе я з'явіўся, каб успомніць Бога.

* * *

А жыццё ліхтароў
Заўсёды вясёлым бывае:
Матылькоў тут улетку безліч,
Зімой як нідзе тут сняжынак лятае.

* * *

Вецер — нібы ў дзяцінстве,
Зоры — нібы ў юнацтве,
Цела з душой — у адзінстве...
Дадому жадання
няма вяртацца.

* * *

Каб па-людску, каб ладна жыць,
Каб душою не быць абдзёртым,
Не бываць трэба дома, а быць,
Не часцей,
 а заўжды —
 і жывым, і мёртвым.

Трэба памятаць, што твой дом —
Беларусь уся: фізічная і духоўная,
А не толькі мясціна, дзе пад акном
Цётка Тэкля таўчэцца з воўнаю.

Трэба помніць, што родны край
Адпрадвеку мяжуе з Богам...
Ды у сэрцы тваім няхай
Патрыёта жыве трывога!

Адчуваць сябе трэба гаспадаром,
А не жыхаром рэзервацыі.
А інакш —
 да канца твой дом
Сілы цёмныя
 возьмуць
 пад акупацыю.

Каб па-людску, каб ладна жыць,
Каб душою быць не абдзёртым,
Не бываць трэба дома, а быць.
Не часцей,
 а заўжды —
 і жывым, і мёртвым.

* * *

Беларусь мая — хлеба бохан —
Рэж яе папалам, ці як —
I не ўчуе ні крыкаў, ні вохаў
Ні сама, ні маскаль, ні паляк.

* * *

У польскі бок глядзіць «заходнік»,
«Усходнік» — у маскоўскі бок;
Сапраўдны ж беларус —
зямлі сваёй не шкоднік,
Шукае дома, дзе ёсць Бог.

* * *

Мне Захад з дзяцінства здаваўся вясною,
Усход жа зімою дыхаў...
А ўрэшце заўсёды яны з вайною
Разам ішлі, разам неслі нам ліха.

* * *

На вуліцы
падонкаў —
Нідзе, нідзе, нідзе...
Люблю, калі падоўгу
Дождж ідзе, ідзе...

* * *

Гэты едкі, цяжкі дым
Быў калісьці кветкамі,
Што ўпрыгожвалі сабой
Родныя палеткі.

Вось і людзі Беларусі
Дымам гэтым сталі...
І няма ў іх да Радзімы
Ні любві, ні жалю.

* * *

Мы — простыя людзі, мы проста жывем,
Мы проста на мове чужой размаўляем,
Для нас не існуе ніякіх праблем,
Апроч, што каўбас дастаткова не маем.

* * *

Каб не сканаць у гэтай багне,
Каб неяк выцягнуць нагу,
Знаёмстваў новых я не прагну,
Як і старых не сцерагу.

* * *

Я скажу: «Не надо рая,
Дайте родину мою».

*Сяргей Ясенін*

Казаў паэт, яму не трэба раю,
Прасіў паэт, радзіму каб далі;
Наіўны, ён не ведаў, што Радзіма
Знаходзіцца за межамі Зямлі.

А гэта, што вось тут, — турма, не болей,
І што сябе тут трэба выпраўляць,
Ды так, каб на сапраўднай на Радзіме
Маглі з задавальненнем нас прыняць.

* * *

Няма ніякіх тут сакрэтаў
Сярод усіх часоў, гадзін,
Калі адзін я — я з Сусветам,
Калі я з вамі — я адзін.

* * *

Хто пра зліццё талдычыць нацый,
Той, пэўна, ў гэтым мае рацыю,—
Каб тыя нацыі, бы піва,
У куфаль йшлі яму бурліва.

* * *

Народная гушча,
Народная гушча...
Адкуль без яе
Апаратнаму тлушчу?!

Ах, як яна, гушча,
Ў карыце ляжыць,
А лыч з асалодай
Над ёю дрыжыць...

* * *

Сатана па свеце ходзіць,
За сабою слуг не водзіць,
Бо заўсёды іх знаходзіць
Там, дзе хоча зло разводзіць.

* * *

Што гэты дзядзька толькі гад,
Не згодзен я нікольки:
У ім сядзіць і дэмакрат,
Якога праглынуў ён толькі... што.

* * *

Здрайцы не толькі, калі вайна...
Здрайцы і ў мірныя дні небяспечны,
Калі працуюць яны
на
Рэжымы, што душы людскія калечаць.

* * *

Яшчэ і той на Беларусі
Найплённа мову вынішчаў,
Хто ў кар'ерысцкай у спакусе
На ёй пра Леніна пісаў.

* * *

Не хачу быць у лесе рэхам,
Сухастойна дзе дрэвы маўчаць;
Не хачу я ў грамадстве рэхнутых
Сабе славу паэта шукаць.

* * *

Казала Цётка: «Так і трэба!» —
А я кажу, што трэба болей...
Усім, хто за кавалак хлеба
Сумленне страцілі і волю.

* * *

Яго паэзія — бы вецер,
Але не той, што гоніць ветразь,
А той, што пад хвастом у куры
Сабе знаходзіць сінекуры.

* * *

Ты параўноўваеш сябе з бярозкай,
Хаця жывеш зусім не боска...
Вялікі сэнс тут ёсць, баюся,
Але няхай я памылюся...
Як курчыцца кара ў агні,
Душу тваю, о лёс, міні.

* * *

Ні адна з цудоўных песняў
(Назіраю колькі год)
Не змушала выканаўцаў
Да вушэй расцягваць рот.

* * *

З гадзінаў першых катастрофы
(Цяпер ўжо гэта не сакрэт)
Ідзе актыўна адсяленне
Людзей ў асноўным на той свет.

* * *

Дакіраваліся кухаркі,
Што ўсе скрабуць навокал каркі.

* * *

Чуе вуха, бачыць вока:
На радзімай на зямлі
Карані яго глыбока
І даўным-даўно згнілі.

*   *   *

А я не святкую свядома Вялікдзень,
Бо ў беларусаў яго няма;
А Пасха, што вось да манкуртаў прыйдзе,
То гэта з Масквы ці з Варшавы турма.

Папы і ксяндзы і ў сягонняшнім выглядзе —
Агенты цароў, каралёў, сатаны;
Не Богу, не ісціне,
шкурнасці й выгадзе
На беларускіх абсягах служаць яны.

Мне ж трэба,
Хрыстос каб на нашай на глебе
Пакутаваў з намі і з намі ўскрасаў...
Так, мне Беларусь незалежная трэба,
Якою пан Бог яе калісь ствараў.

* * *

Не трэба, каб хтосьці
Мне неба шукаў
І тут, на Зямлі,
Каб ён мной папіхаў.

* * *

Як можна жыць у горадзе, скажыце,
Дзе у кнігарнях колькі год запар
Твае тамы, нібы пляведы ў жыце...
Як можна жыць?!
Мяне б разбіў удар.

* * *

Хто многа маліўся,
А жыў у бязбожжы —
Адразу ж зваліўся
Ён у бездарожжы.

* * *

Што ні канфесія — то лічыць
Сябе бліжэй за ўсіх да Бога,
А ты угледзься ў іх абліччы —
То там ад Бога — анічога.

* * *

Людзі слоў, натоўпу людзі...
Справы іх у розным блудзе
І таму на Божым судзе
Ой нялёгка ўсім ім будзе.

* * *

Дзе трэба пакутніцкі крыж нясці,
Дзе трэба не гнуцца, дзе трэба стаяць,
Не трэба выдумваць, не трэба плясці
Лухту і самому сабе спачуваць.

* * *

Адкінутае нізкімі людзьмі,
Заўжды пачута будзе Богам
Народжанае пад грудзьмі
Высокае, нібы трывога,
Слова.

## Паэт

Ён прыйшоў нам не даць, а згадаць,
Што даў Бог нам, а мы адхілілі,
І што шчасце цяпер шукаць
Застаецца нам толькі ў магіле.

* * *

Не раз сябе я адчуваў
Палонным на зямлі.
І браў мяне тады адчай,
І ногі не ішлі.

Не ведаў я, куды ісці,
У бок які глядзець.
І мне хацелася знайсці
Ў той момант толькі смерць.

Але імгненна ў той жа час
Быў напамінак мне:
З палону ўсіх чакаюць нас
Ў нябеснай старане.

* * *

Скрабуць патэльні...
Патыліцы скрабуць...
Амаль толькі гэтым
У нас і жывуць.

* * *

Няхай есці ў нас не стане —
Усёроўна не паўстанем,
Будзем жэрці мы сябе:
Ты — мяне, а я — цябе.

* * *

Усё жыццё па-беларуску
Нам баліць, а мы маўчым;
Дык чаму ж па-беларуску
Мы хоць раз не закрычым?!

* * *

Калі за саборам
Схавана нахлебнасць,
Тады там саборнасць —
Сарайнасць і хлеўнасць.

* * *

Касцёл — харашун, прыгажуня — царква,
Глянеш і — кругам ідзе галава...
А ўсярэдзіне,
Пасярэдзіне —
Паланізатары,
Русіфікатары —
Ліха іх матары —
Каланізатары.

* * *

Ў чыстым полі адпрадвеку
Няма бур'яну, лебяды...
Яны слядамі чалавека
Ідуць і селяцца заўжды.

* * *

Якое высокае неба!
І вузкая наша душа,
Што мы, апроч трантаў і хлеба,
Якіх нам нямнога і трэба,
Нічога не можам жадаць...

* * *

За што загінуў ён, Грачанікаў,
Не скажуць ні Мінюст, ні МУС...
А я ўсё думаю ў адчаі:
«За тое мо, што — беларус?»

За тое, можа, што прылюдна
Ён карыстаўся роднай мовай...
І вось, зніштожаны ублюдкамі,
Не скажа болей ён ні слова.

За «Споведзь» Геніюш, магчыма,
Што ў «Маладосці» друкаваў...
Ужо тады хтось за плячыма
Стаяў і моманту чакаў.

Відаць, і творы Ермаловіча
Ўзбуджалі чыйсьці дух дэбільны...
І вось рэдактара надоечы
Агенты зла ўзялі й забілі.

Прадстаў прад чытачом нядаўна
У «Маладосці» БНФ...
І, пэўна, ўраз падаў каманду
Агентам тым жа іхні шэф.

Не стану доўжыць спіс трывожны,
Што да трагедыі вядзе...
Ў асноўным смерць — наш спадарожнік,
І хто з нас заўтра на чарзе?!.

Ды колькі можна, колькі можна
Маўчаць і падстаўляць сябе?!.

Ну хопіць быць ужо заложнікамі,—
Пара яднацца ў барацьбе!

За што загінуў ён, Грачанікаў,
Не скажуць ні Мінюст, ні МУС...
А я ўсё думаю ў адчаі:
«Хутчэй за тое, што ён —
БЕЛАРУС».

* * *

Беларусы мы ад роду,
Кожны тут зусім не гад;
Дык чаму ж нас з Новым годам
Не віншуе родны ўрад?!

Па прычыне простай, можа,
Усе рупары маўчаць,—
Што двух слоў урад не можа
Па-тутэйшаму звязаць?

* * *

Яшчэ й таму ты не ў пашане,
Зямлі і продкаў нашых мова,
Што палітычныя паханы
Тваім не прымушалі словам
Народы шчасцем захлынуцца
І перад смерцю апынуцца.

* * *

Беларуская мова — то боская мова,
Ды яна, як і Бог, непатрэбна ёсць нам,
Але час той ідзе і знявечнае слова
Для ратунку свайго ўспамінаць будзе хам.

* * *

Мітрапаліту Мікалаю
Я крыж і руку цалаваў,
Бо ён для роднага для краю
Ў чужыне мову захаваў.

* * *

На Землю мы забылі
І Неба нам — няўцям...
Шукаць у Чарнабылі
Нам вечнага жыцця.

* * *

Нагрудны крыж насіць я лёгка не магу
З прычыны той, што сцерагу
Шляхі нябоскія наўкола,
Што я душой пакуль што голы,
Што не пад сілу мне на плечы крыж узняць
І да Галгофы крочыць і маўчаць.

* * *

Калі газет чытаць замнога,
Залішне слухаць радыё,
Тады ўжо ўнутраны наш голас
Не падае парады нам.

* * *

На розных шляхах-дарогах
У роспачы і жальбе
Карысней за ўсё нам звяртацца да Бога
І да самога сябе.

* * *

За Сонцам, за зоркай кожнай —
Сусвет бясконцы, бясцэнны,
А за партрэтамі, бюстамі ўсеўладных —
Сцэны,
        глухія сцэны.

* * *

Хто рвецца да рыцарскіх латаў,
Хай помніць: яны цяжкаваты
Бываюць
І запраста могуць сабой прыдавіць
Таго,
Хто задумаў у іх пафарсіць.

* * *

Было б тут што пераварочваць!
Самому б лепш перавярнуцца,
Каб у глыбокі сон вярнуцца,
І зноў свае заплюшчыць вочы,
І спаць наўсцяж і дні, і ночы!

* * *

На розных шляхах-дарогах
У роспачы і жальбе
Карысней за ўсё нам звяртацца да Бога
І да самога сябе.

* * *

За Сонцам, за зоркай кожнай —
Сусвет бясконцы, бясцэнны,
А за партрэтамі, бюстамі ўсеперараможных —
Сцены,
глухія сцены.

# Язэп Драздовіч. 1914 г.

Пра зоркі, пра вечнасць — усе мае думкі,
Ды ёсць шчэ адна, без якой я — нідзе:
Калі беларусы свабоднымі будуць
Ад платы падаткаў
Мангола — татарска — маскоўска —
варшаўска —
Сусветнай ардзе?!.

# А. Я. Багдановіч. 1896, кастрычнік

Па вузенькіх вулках Гродна,
Нібыта па хаце нам роднай,
Хаджу —
не прыйду ў сябе...
Няўжо не спаткаю цябе?!.
Няўжо не шукае прытулку
Душа твая ў гэтых вулках,
У вузенькіх вулках Гродна,
Нібыта ў хаце нам роднай?!.

* * *

Даваць весялосць здаровым —
Ці паэзіі гэта задача?!.
Павінна яна ўздымаць галовы
Тым,
        здароўя ў каго нястача,
Здароўя цела, душы здароўя,
Ператварылі каго ў пагалоўе,
Хто нават забыўся, што ён чалавек,
Сабой хто ўяўляе маральных калек,
Як ува ўсіх,
                у паэта свае задачы,
І помніцьма цвёрда,
                хто для чаго прызначан.

# Да партрэта
# Ларысы Антонаўны Геніюш

I

Маўчу ў Сусвет,
у глыб нябёс,
Маўчу на ўсю,
на ўсю зямлю,
Радзіма,
за трагічны лёс —
І твой і мой —
Цябе я больш яшчэ люблю.

II

Ёсць Беларусь і Бог, а болей
Ні ў чый палон я не іду;
Без іх няма мне долі, волі,
Без іх і ў раі прападу.

III

Хто сэрцам і думкай жыве ў гары,
Як тут на зямлі —
у Айчыне,
Той не бывае ніколі стары,
Той —
вечны юнак
ці дзяўчына.

Калі ж быць дакладным,
калі ў акурат —
Народны гісторык ён
па прызванню.

Ён пошук духоўны чуйна вядзе,
Ён хоча сказаць ўсяму свету,
Што Беларусь, як краіны ўсе,
Дыхаць павінна з Сусветам.

Ён хоча сказаць,
што яднаюць людзей
Праўда і справядлівасць;
Калі ж іх не знойдзем у ходзе падзей,—
Страцім да роднага краю пачцівасць.

III

А думкі, а словы яго
над вякамі
Лятуць,
абуджаючы душ нашых скрыдлы...
Калі мы таго не захочам самі,
Ніхто і ніколі
не зробіць нас быдлам.

IV

У век панавання антыідэй,
Суцэльнай хлусні і падману
Ці многа, Радзіма, ў цябе дзяцей,
Што служаць табе аддана?

Не многа,
не часта ўдаецца пачуць
Пра мужнай любові урокі...

А ён, каб відушчасць табе вярнуць,
Сябе за работай
 пазбавіў зроку.

V

У сутарэнні,
 у «Спадчыне» Белага
Няма дзе яблыку ўпасці...
«Што тут сягоння?» — пытаю нясмела.
«Сягоння сустрэча — бы шчасце».

* * *

На плошчы твараў —
Бы пялёсткаў на белай вішні...
Забастоўка зараз,
Амаль усе людзі выйшлі.

* * *

Змяшаю будні, святы,
Пачну я ціха жыць...
Няма куды спазняцца мне,
Імчаць няма куды.

Хутчэй, чым зямля родная,
Куды паспею я?!.
Дык хай жа наліваецца
І, быццам зерне, спее
Ціха
душа мая.

* * *

Меней слоў, што душу закалыхваюць!
Прэч таксама палон нематы!
Я за тое маўчанне вялікае,
У якім прачынаешся ты.

І, бы сонца, бы зоры, бы ззянне іх,
Абдаеш ўсё нягучным святлом...
Меней слоў, болей спраў — і збудуеш ты
І тутэйшы, і тамашні дом.

* * *

Той паэт з усіх найлепшы,
Хто ўжо не піша вершы,
Перастаў хто зарабляць
На душы сваёй і мове,
Хто жыццё, яго асновы
Пачынае спасцігаць
Больш маўчаннем, а не словам.

* * *

І ўсё, што нам душы мучыць, пячэ,
З цягам часу ўсё зробіцца быллю...
А думкі?!.
І іх, брат, гняценне міне,
Міне і абернецца пылам...

Прыдарожным — калі мы тлелі,
І зорным — калі гарэлі.

* * *

Чаму не бачым мы НЛО?! —
Ды ўсё таму, што неба мы не бачым,
Ды ўсё з прычыны, з фактару таго,
Што не кідаем жыць жыццём сабачым.

Ланцуг і будка, скавытанне і грызня —
Вось іпастасі нашых існаванняў...
Хай згіне ноч, святло хай свеціць дня
Па нашых душах, нашых меркаваннях!

І хай увойдзем мы ва ўласную бясконцасць,
І хай убачым мы на вочы на свае,
Што у Сусвеце не адно, а многа сонцаў,
А ў НЛО — знаёмыя твае.

* * *

Хто хоча у горад на неба,
Звяртаецца хай да самога сябе
I пайку тутэйшага лёгкага хлеба
Хай страціць ў нялёгкай са злом барацьбе.

* * *

У спустошаным краі,
Дзе жывога — нічога,
Да каго ж мне звяртацца?!.
Да сябе і да Бога.

* * *

Гляджу я на завалены ручай:
О,колькі там цаглін, паленаў розных!..
Гляджу — і ніякі мяне адчай
Як і не браў, так і цяпер не возьме.

Ручай — вада — імклівае жыццё...
Ніштo ім не спрычыніць перашкоды;
Так, не для тых і енкі, і выццё,
Хто скіраваў сябе у бок свабоды.

* * *

О, як было калісь прыемна
Скідаць з сябе мне лахманы
І ў чыстых водаў прахалоду
Ляцець з надрэчнай круцізны.

І неадступная спякота,
Што свет зацягвала у млосць,
Ператваралася імгненна
Ў найасалоднейшае штось.

І доўга плаваў, нырцаваў я,
Абарачаўся ў хвалю нат
І не было жадання, помню,
Вяртацца у жарынь назад.

Жыццё маё!
Мой дзень апошні
Хай будзе тою круцізной,
Дзе б лёгка цела я пакінуў
І ў вечнасць там сышоў душой.

## Зорнай ноччу

І не хочацца тут хлеба,
І з душы ідзе трывога...
Аднаму пад гэтым небам —
Бы ў суседстве з панам Богам.

* * *

Чым болей свой позірк
Ты будзеш з людзей пераводзіць на зоркі,
Тым меней твой лёс
Табе будзе здавацца горкім.

* * *

Не ведаю, як хто; я ж асабіста
Сваё мінулае — і будні, і ўрачыстасці —
Без шкадавання, сораму і болю
Сабе разглядваць не дазволю.

* * *

Я са смерцю іду на збліжэнне,
Ды не з той, што ламае крылы,
А што духу дае нараджэнне
На краі самай цёмнай магілы.

* * *

Хачу, каб смерць была ўрачыстай,
Бы першы снег у полі чыстым...
Хай будзе болем, горам разам
Дый паратункам ад маразму.

* * *

Каб мне па-людску паміраць,
Не быць надзеяю забытым,
Не дай мне, Божа, забываць,
Калі за справу быў я біты.

* * *

Свечка — дзіда жывая...
Гляджу на яе й адчуваю,
Як неба яна адчыняе,
Як сэрца маё вызваляе
Ад немачы, ад адчаю.
Свечка — дзіда жывая...

* * *

Што можам светлае пакінуць на зямлі —
Раманы, вершы, музыку, карціны?!.
О не! Дай Бог, каб як яны прыйшлі,
Яны (хоць раз бы), горкія раскаяння слязіны.

* * *

Напоўнена жыць —
Гэта болей, чым тут накановыным быць,
Гэта тое, калі б ці маўчаць, ці крычаць;
Маўчаць, калі зоркі на небе мігцяць,
А крычаць — бы жанчыны пры родах крычаць...
Маўчы і крычы
Сярод дня і у цемрадзь ўначы —
І ўсёю істотай адчуеш тады,
Як ты пазбаўляеш сябе бяды,
Як ты пакідаеш тутэйшы схоў...

Прасторы Сусвету — без берагоў.

* * *

Неба ў гарах...
Там яно — бліжай.
Неба раўніны...
Тут яго — болей.

* * *

Няма на зямлі ручаіны нат,
У якой не купалася б неба...
І прытым самым першым.

* * *

Ад падножжа Сонца
Да кветкі падножжа —
Не такі ужо ён і нязначны
Шлях кроплі,
Кроплі звычайнай дажджу.

* * *

Ветрам зоркавым спавіты гэты вечар,
Гарызонт да месяца сягае,
А яшчэ душы маёй і сэрцу
Гукі нетутэйшыя чутны;
Гукі нетутэйшыя і мілыя...
Хто пачуе іх аднойчы, той
Зразумее ўраз, што на Радзіме
Пасярод Сусвету ён жыве.

* * *

Хто слухае шум ветру, хваляў шум
І зорнай ночы цішу,
Той у ступені пэўнай
Ёсць свету горняга жыхар.

* * *

Прыгажосць не безадносная,
Прыгажосць не бескарысная...
Дык каму ж глыбіні неба
Прыгажосцю сваёй служаць?!.

* * *

Няхай сабе й жудасна крышку,
Але рамантычна
Ісці сярод ночы па горадзе
па чужым
Сярод гмахаў, табе незнаёмых,
Сярод гмахаў з патухлымі вокнамі...
І як жа яно па-сапраўднаму жудасна
І антырамантычна,
Калі сярод белага дня наўкол
Ходзяць з патухлымі,
З патухлымі тварамі ходзяць
Твае родныя і знаёмыя.

* * *

Для таго, хто разумны,
Для таго і сусветны розум
Існуе, безумоўна.

* * *

А сэрца Зямлі — звонку:
Травы, птушкі, звяры
І, вядома ж, сам чалавек...

А сэрца Зямлі — звонку,
А сэрца Зямлі — хваравітае сэрца.

* * *

На вуліцах,
Што хоць чымсьці не звязаны з небам,—
Неверагодна маркотна
І больш таго, амаль невыносна жыць.

* * *

У горадзе гэтым не знойдзеш ніводнага
каменя,
Які б нагадаў штось чароўнае з даўніх
часоў,
Які б да сябе пацягнуў прытуліцца душою,
Які б успаміны і мары твае ажывіў...
У горадзе гэтым — каменні, каменні,
каменні...
Якія штодня мы шпурляем адзін ў аднаго.

* * *

Ці могуць быць прыгожыя там людзі,
Дзе зруйнаваны ўсцяж прыгожыя будынкі?

* * *

О наш край!
О падзеі нашы!
Дзіву даюся,
Як шчэ кветкі тут могуць расці.

* * *

Асколак люстэрка ў дзюбе вароны...
Што гэта?
Абсурд?
Таямніца?
Зусім — бы прысутнасць мая на зямлі.

* * *

Колер радасці нашай —
Чорны;
Колер скону
Хай будзе светлы.

* * *

Я помню той час нялёгкі,
Калі мы адзежу старэйшых
Даношвалі
і нармальным,
Нармальным ўсё гэта было.

Бачу я сёння, як душы
Сабак, і свіней, і шакалаў
Даношваем мы старанна...
І лічыцца гэта
нармальным.

* * *

Бы ў пячоры Паліфэма —
быць у асяроддзі бездухоўных...

Ах, як яны стараюцца,
стараюцца,
стараюцца,
Стараюцца цыклопу дагадзіць...

О сэрца!
О душа!
О розум!
Вы не павінны забываць,
Што там, уверсе
і за каменем тым —
Сінь неба,
сонца, вольнае паветра...

О сэрца!
О душа!
О розум!
Павінны нешта вы рабіць!
Павінны выйсця вы шукаць!

* * *

Зямля мне бачыцца цудоўнейшым сталом,
Дзе можна галаву
і сэрца прытуліць,
Дзе можна лёгка так аблакаціцца
І можна дзе знайсці
і сябра,
і сябе...

О стол рабочы!
О стол вясельны!
Імянінны стол!
Хвала і
слава вам,
сталы,
Што сэнс і цягу да жыцця даруеце
І даяце нам права
быць людзьмі!..

Зямля мне бачыцца цудоўнейшым сталом...
Ды як жа так, што многія
туды з нагамі лезуць?!.

* * *

Не памятаю на зямлі дамоў,
А ў іх кватэр,
пакояў розных,
Адкуль бы я не пажадаў
Душою рушыць далей
у Сусвет.

* * *

Хочацца верыць,
што жыхары Зямлі
Ніколі не скажуць
самі сабе:
«Нібыта праз скалы,
платы
і штыхі,
Ішлі мы праз вострыя болі,
Праз вострыя жахі,
Праз вострыя думкі,
Праз вострыя позіркі,
Праз вострыя словы,
Праз вострыя спрэчкі,
Праз вострыя жарты,
Праз вострыя пахі,
Ішлі мы ўпарта да мэты:
Уладу ўзяць над прыродай.
Над ёю,
што ўсіх нас стварыла,
Ішлі —
і прыйшлі...
І амаль кожны з нас цяпер
Быццам на вострым калу
сядзіць».

* * *

Як прагнуў хуткасці чалавек!..
І вось калясніцу ён вынайшаў,
А потым узяў і пусціў паравоз,
А потым ўзляцеў ў самалёце,
А потым ракету пабудаваў,
А потым...
А потым сэрца яго,
Сэрца яго нерухомым, бы камень, стала.

* * *

Ад радасці скача,
трасе кулаком
Дзяцюк
гадоў трыццаці...
Ад радасці скача,
трасе кулаком:
Забіў у вароты праціўніка гол;
Забіў выпадкова...

Ад радасці скача,
трасе кулаком,
Бы рыба хапае паветра...
Ад радасці скача,
трасе кулаком...
Ах, нат хлапчукі
так, здаецца, не робяць.

* * *

Як стадыён раве!..
Відаць, забілі гол.
Як стадыён раве...—
Бы хтосьці
велізарны воз пустых гаршкоў
рассыпаў
І ўніз з гары ляцяць,
грукочучы, яны.

* * *

Чым больш калісьці білі іх па галаве,
Чым больш з вачэй іх сыпалася зор,
Тым больш сягоння зоркавай хваробай
Сярод усіх пакутуюць яны.

* * *

На гэтай пустэльнай дарозе
Адзінокая птушка мне даражэй намнога,
Чым які-небудзь «жыгуль»,
Поўны сумак і сытага люду.

* * *

Так многа на свеце людзей і ідэй,
Што зместам сваім да кашулі падобны,
Кашулі,
той самай кашулі,
Адпрасаваны ў якой
Толькі каўнер і манжэты.

* * *

Складаны ён — ножык складаны нібыта;
Не душа у яго, а лязо...
О Божа!
Не дай ты яму раскрыцца,
Самавыявіцца не дай!

* * *

На полі мангола-татарскім
Не ўзыдзе прыгожая кветка,
А ўзыдзе — не зацвіце;
Калі ж зацвіце —
яе знішчаць,
Бо кветка прыгожая тая
Стане адцягваць увагу
Татара-мангол і іх коней
Ад мэты галоўнай ханаў —
Ісці да апошняга мора.

* * *

О сцены!
О іх палярнасць!
О супярэчлівая іх намагнічанасць!
Адных тут цягне партрэты свае развешваць,
Другіх — галавою біцца.

* * *

Адна пылінка дабрыні
На вашай
на руцэ
Мне даражэй за злітак золата.

* * *

Знішчыць спачатку мора,
А потым дазволіць купацца ў ім...
Перабіць чалавеку ногі,
А потым дазволіць ісці ў скокі...
Знішчыць мову,
А потым дазволіць ёй карыстацца...—
Вось ён у дзеянні —
Дэмакратычны прылік!

* * *

Захацела душа чысціні —
Вось і ўсё тлумачэнне,
Чаму я пайшоў адгэтуль.

* * *

Ты абавязан!
Ты павінен!
Ды толькі прыйдзе вецер,
Вясёлы майскі вецер —
І я пра ўсё забыў.

* * *

Як калісьці мураш у бурштыне,
Так я знерухомеў
У плыні гэтых, здавалася б, чыстых падзей.

* * *

Вялікім хто быць імкнецца,
Імкнецца за кошт другіх,—
Ён будзе такім, ён будзе вялікім,
Праўда, накшталт пустыні.

* * *

Вялікі! Найвялікшы! Велізарны!
Калі так пра каго крычаць,
Я часта думаю,
Ці не яны, вось гэтыя вялікія,
Перашкаджаюць быць нармальнымі другім?!.

* * *

Я не назваў бы чалавека гэтага сцяной,
Ды трэба ж так,
Што да ўсяго
Жывот яго балконам выглядае.

* * *

Божа!
Дзіця разбілася!..
І што за крэтын
Высунуў гэты дурацкі камод?!.

Дзіцятка,
хлопчык мой родны,
Ідзі —
я цябе пашкадую.

Божа!
А колькі,
вялікія і дарослыя,
Мы ў жыцці разбіваемся
Аб розныя там тэорыі,
Што, падобна камоду гэтаму,
Нехта
высуне быццам назло...

Божа!
Дзіця разбілася!
І трэба ж, ліха яго вазьмі,
Не выкінуць
гэты дурацкі камод!

* * *

Свабода!
Усяго толькі некалькі слоў пра яе.
Ды дзе там —
адно толькі гэта слова
Адных прымушае
вышэй галаву уздымаць,
Другіх —
вушы труслiва тапырыць.

* * *

Так многа чытаць пра герояў
І ў вугал зашыцца
Тады, як змагаецца з крыўдаю праўда...
Навошта ж, паслухай, кнігі;
Навошта ж, скажы, чытанне;
Навошта ж, выходзіць,
Слова?!.

## Надпіс на адным магільным камені

Гэты камень занадта лёгкі
Ў параўнанні з любым з тых каменняў,
Што нябожчык, бывала, кідаў
У знаёмых, сяброў і блізкіх.

## Эпітафія

Ляжыць тут той,
Хто сутнасцю сваёй
Быў да клапа падобны,
А выстаўляў усё жыццё сябе
Кароўкай божай.

## Дыяген у навейшыя часы

З часоў далёкіх я да вас прыйшоў,
Са мной ліхтар,
бы тысячы гадоў назад,
Бы тысячы гадоў назад у пошуках я чалавека,
Але ж яго няма
і ценю нат яго не знойдзеш.
Як і даўней, кіруе светам тупасць,
Як і даўней, жыруюць дармаеды,
Ханжы і шарлатаны зняважаных няволяць
На шанаванне выдумак ганебных.
А калі хто з абражаных запратэстуе,
Дык цемрашалы тут як тут,—
Яны ўжо суд вяршаць свой гнюсны.

З часоў далёкіх я да вас прыйшоў...
О, як ліхтар мой вас палохае!..
О, як вы лезеце яго задзьмуць!..

# З горка-ўсмешлівых прызнанняў Віёна

I

— У чым захочаш вершы дапамогуць...
Напрыклад я,
                    заўсёды, калі мой жывот пусты,
Кішэню заднюю пашарпаных штаноў
Паперай з вершамі маімі напіхаю.
— І што тады?
— Як што?
                    Штаны шчыльней да таза прыстаюць
І ні за што не упадуць далоў.

II

Вы сталі непрыгожымі, сабакі;
Навошта гэтак моцна гаўкаць,
                              калі я
Іду сустрэчнымі пасёлкамі і сёламі;
Ці вы забыліся, харошыя мае,
Што у мяне пашарпаны штаны
І што яны па нітцы могуць ўраз разлезціся,
Калі вы моцна гаўкаеце ўслед?!.

* * *

Народы, ўсе народы
Маюць адну крыніцу,
Паходжанне маюць адно...
Яны, бы асобныя стружкі
З палена аднога і тога ж,
Агонь да якіх —
адналькавы
І аднолькава ўсіх пажарэ...

* * *

Ах! Які мы народ!
Мы — нібыта пясок,
Што прамылі яго
І, каштоўнасці вымыўшы,
Проста кінулі
і забылі.

# На магіле Максіма Багдановіча

Светла ў мяне на душы
І хочацца плакаць
Ад радасці,
Што людзі такія былі...

Змрочна ў мяне на душы
І хочацца плакаць
Ад болю і жалю,
Што мала такіх на Зямлі...

# Любоў Уітмена

Так многа душэўных патрачана сіл,
І гэтаю стратай я нішчыў сябе;
Я доўга там жыў, дзе амаль не кахаў,
А там, дзе кахаў, там каханым не быў.

Было ўсё гэта ў тлуме людскім...
А ёсць жа і Неба — Ідэя Ідэй,
Прастора Прастораў, Гадзіна Гадзін,
Любоў, дзе, як Сонца,—
Адна і на ўсіх.

* * *

На мае недахопы і хібы
Зазначала ты з лёгкім жалем,
Нат не з лёгкім,
а з нейкім вясёлым,
Бы ў лесе,
калісь у лесе
Грыб мінуў я, а ты заўважыла,
І гукнула мяне, й паказала...
Мама!

* * *

Поўдзень.
Лета.
Сонечны ранак.
За акном наўкол птушкі спяваюць...
А мне чуецца,
успамінаецца:
Бульбу чысціць мая матуля,
А я, хлопчык, ляжу на печы
У дрымоце
світанкам зімовым.

## Светлае імя тваё, маці!

Жыватворны пачатак! Жыватворная крыніца!

Ты дала мне прыгожыя вочы.
Дык ці стану я кідаць непрыйстойныя позіркі вакол сябе?! Не!

Ты дала мне прыгожыя рукі.
Дык ці стане іх дотык калі-небудзь
ліпкім, ці пачнуць яны хоць
на чым-небудзь пакідаць плямы?! Не!

Ты дала мне прыгожую, непаўторную мову! Дык ці стану я ганьбіць,
а не ўслаўляць увесь гэты загадкавы
радасна-трывожны свет?! Не!

Жыватворны пачатак! Жыватворная крыніца!

* * *

Пад Слуцкам, над Случчу
На стозе духмянага сена
Ляжу, сузіраючы зорную ноч...
Мой Божа!
Якая наўкола стаіць цішыня,
Што здаецца мне:
чую я шэпт,
Шэпт пальмавых лісцяў чую
З радзімы продкаў маіх далёкіх —
Арыяў высакародных.

* * *

Бы кропля расы,
Бы кропля дажджу,
Быў я калісьці чыстым...
Праўда, было гэта вельмі даўно...
Тады, калі
Тая кропля расы,
Тая кропля дажджу
Самі былі па-сапраўднаму
Чыстымі.

* * *

I гукі, і пахі, і лекі,
Калі іх арганізм не выносіць,
Адрываюць жывыя тканкі
І, здараецца, смерць нясуць.

І падман, і здрада таксама,
Калі ў ролі яны алергенаў
Пападаюць у сэрцы і душы,—
Нам лятальны канец нясуць.

* * *

Здольнасць пераступаць
Свайго часу мяжу —
Частая, сумная
й небяспечная здольнасць.

* * *

Талент твой,
Твае бяссонніцы,
Твае ж і непрыемнасці,
паэт.

* * *

Не надта дужаму,
мне падабаецца,
Калі са мной слабейшы хтосьці
побач.
Мацнею я тады,
Бо за яго павінен пастаяць.

* * *

Паміж духам і плоццю
Кроў працякла...
А каб не стала
пунсовая,—
Вы ад Праўды не адступайце,
людзі!

* * *

Не раз я бываў у бядзе,
                                        не раз
І кожны раз сваім сэрцам чуў,
Чуў,
     як б'юцца яны спагадліва,
Яны —
          сэрцы сумленных людзей.

* * *

На Чалавека вучацца таксама...
А тэрмін навучання — ўсё жыццё;
Іспыт здаюць, іспыт нялёгкі
Да смерці аж
                    і нат пры ёй.

* * *

Звяла мяне птушка з дарогі,
Звяла — да гнязда прывяла;
Дзівачка,
забылася, мабыць...
А мо птушанят сваіх мілых
Рашылася мне паказаць.

* * *

І што ні гавары, і як ні ухваляй,
Ды адзінота ў канчатковым выніку —
Ёсць скрынка,
Няхай сабе й раскошная —
Ўсё ж скрынка,
Якую хто-ніхто
Аднойчы перакуліць ўгору дном
І да ўсяго — усядзецца на ёй.

* * *

*Віктару Халіпаву*

Мо болей ад усіх паэт не той,
Хто са старонак друку не сыходзіць,
А той, у сэрцы у чыім
Тварэц маўчаннем велічным
азваўся.

* * *

Не, гэта не проста птушкі
З верху бярозы
раптоўна-імкліва зляцелі уніз...
Гэта проста Творца —
Уладар Сусвету —
Над маім
над акном
трасянуў фартухом рабочым.

* * *

Ніякіх рухаў! До!
Бы сонца на вадзе,
Здаецца, даляжаў бы
Акраец гэтага жыцця.

* * *

Ты бачыш, які ён самотны і голы,
Як вецер сцюдзёны хапае яго,
Садраўшы і пахі, і кветкі, і лісце,
Каб з коранем выдраць і смерці аддаць?!.
Ды толькі ж не выйдзе! Ты чуеш?! Не выйдзе!
Зямля не аддасць яго, не.
Яна яго моцна й пяшчотна трымае
І сілы ў галіны яму дасылае...
І сілы той хопіць на ўсе непагодныя дні.
А вецер... А можа, яно і нядрэнна,
Што вецер шугае, што вецер мяце,
Прынамсі, за куст зачапіцца не зможа
Нішто, што навекі ужо аджыло.
Дэпрэсія?!. Немач?!. І выйсця няма?!.
Не! Мой сябра, мой родны,
Не трэба здавацца,
Спяшацца не трэба падпісваць сабе прыгавор;
Тут трэба змагацца,
Змагацца цярпеннем, маўчаннем, чаканнем...
Тут трэба змагацца, як гэты змагаецца куст.
Мой сябра, мой родны,
Нічога не зробіш;
Такія ўжо справы; тут трэба чакаць,
Чакаць, як чакае вось гэты самотны,
Вось гэты прыгнечаны, голы куст...
І час той надыдзе — пупышкі прачнуцца,
І лісце, і кветкі аблепяць галлё,
І птушкі, і пчолы, і мы з табой, пэўна,
Твары схаваем у пахах яго.

* * *

Каб толькі крылатымі,
Каб толькі лятучымі,
Каб толькі ў святле і звоне?!.
Не. Дні і цяжкімі быць,
Бы каменне, павінны быць цяжкімі...
А інакш, што складзе,
А інакш, што, скажыце, складзе
Храма духу магутны падмурак?!.

* * *

Жыцця не хопіць, каб глядзець на ўсе дамы,
Што будуць будаваць у горадзе у нашым...
Галоўны дом — храм духу — у тваёй душы,
І ты — галоўны будаўнік,
І будаваць ты паспяшайся,
І гэта памятай заўжды.

*  *  *

Не трэба наракаць,
Што свет — недасканаласць;
Ва ўсе вякі яна у ім была.
Галоўнае не забывай,
Што ў свеце людзі,
Заўжды былі у свеце людзі,
Якія ўдасканальвалі сябе.

* * *

Няхай паветра толькі ты глыток,
Але ж затое маеш ты магчымасць
Зрабіць аднойчы выбар,—
Кім быць табе —
Ці бурбалкай,
Ці вечнага жыцця працягам.

* * *

Калі з прорваю, з яе краем
Параўнаем жыцця канец,
То хіба ж мы, сябры, забудзем,
Што ў прорву не толькі падаюць,
А яшчэ і ўзлятаюць над ёй.

* * *

Гэту нітку, не змачыўшы,
Не зацягнеш у іголку...
Так не трапіць ў царства Бога,
Слёз не зведаўшы душа.

* * *

Калі нам вельмі добра
І калі кепска надта,
Мы закрываем вочы
І ў сябе глядзім...
І погляд той глыбокі,
Унутраны той погляд,
Выводзіць нас нібыта
У нетутэйшы свет.

* * *

Жывое дрэва... Будзь благаславёна!
І дрэва, што ўпала,
                    таксама будзе хай благаславёна,
Бо ператворыцца яно ў зямлі узгорак,
Дзе яшчарка ўзбяжыць, спіну падставіць сонцу
Ці што яшчэ тут выйдзецца жывое...

Благаславёна будзь маё таксама цела,
Жывое сёння, заўтра мёртвае, напэўна.

* * *

Як добра сёння на душы! —
Нібыта хтосьці ў глыбіні Сусвету
З пяшчотай і любоўю
Успамянуў мяне.

* * *

Паэт!
Бессмяротныя вобразы
Самі насустрач табе паплывуць,
Калі ты свой човен
Скіруеш
у вечнасці мора.

* * *

Святло бясконцае нябёс,
Знайшоўшы месца ў нашых душах,
І забярэ іх,
душы нашы,
У глыб Сусвету забярэ,
Калі таму надыдзе час,
З Зямлёй растацца
час надыдзе.

## Рука

(балада)

Душ святло, бы сонца ззянне,
З па-над светам у саюзе;
А хто страціць сувязь тую,
Той і таленту, вядома,
Сам сябе навек пазбавіць.

Раскажу, сябры, пра сон вам,
Чалавека сон страшэнны,
Чалавека, што паэтам
Нарадзіўся, ды не стаў ім.

Чалавек той, што паэтам
Нарадзіўся, ды не стаў ім,
Скіраваў душы імкненні
Ў бок даброт матэрыяльных;
Ён не зведаў, што такое
Невыносныя умовы,
Не спазнаў ён, калі ў друку
Не сустрэць гадамі слова,
Са спагнаннямі не стрэўся.

А натужлівыя вершы,
Свае вершы нехлямяжыя
Чаргаваў віном, кабетамі
І развагамі пра тое,
Што і ён славуты будзе,
Быццам тыя вершаробы,
Што так многа выдаюцца...
(Але хто іх дзе чытае?).

Будзе, будзе й ён славуты!
Ды калі ж канкрэтна будзе?!.

Калі будучыня тая
У абдымкі яго возьме
І уздыме над людзямі
Хоць у гэтай частцы свету?!.

Хто чакае — той сустрэне
Тую сутнасць знойдзе, стрэне,
Якой сам адпавядае
Ў пэўнай меры
ў любой справе.

Чалавек той, што паэтам
Нарадзіўся, ды не стаў ім,
У чарговай у паездцы
У народ з радкамі вершаў
Дачакаўся той сустрэчы,
Што так прагнуў,
аб чым марыў;
Праўда, ў сне яна была.

Пасля вечара паэзіі,
Што праходзіў згодна плану,
Разышліся яго ўдзельнікі —
Госці і гаспадары —
Кожны сцежкаю сваёй.

Чалавек жа, што паэтам
Нарадзіўся, ды не стаў ім,
Ў асяроддзі сабе роўных
У гатэль накіраваўся
Дабіваць свой творчы дзень...

І было віно, размовы,
І ўсё іншае такое,
Што далёка нас адводзіць
Ад сапраўднага жыцця.

А праз пэўны час, вядома,
Надышла хвіліна тая,
Калі нас у сваю ўладу
Забірае пан Марфей.

Толькі сплюшчыліся вочы
У героя майго сказу,
Як сцяна насупраць ложка
Разышлася і ў праёме
Незвычайная істота
У абліччы чалавека
Ўзнікла раптам і гаворыць:

«Ты даўно мяне чакаеш,
Хочаш ты са мной сустрэцца,—
Сваёй будучыняй слаўнай,—
Ну дык вось давай руку —
Павяду цябе я ўдалеч,
Пакажу твае заслугі,
Ўсе рахункі падвяду».

Ён глядзіць і неяк жудасна
Яму робіцца тым часам,
Бо няма ж у той істоты
Аніводнае рукі.
«Як жа я пайду з табою?!.
Ты ж — бязрукая, калека».

У адказ: «А ты сваю мне,
Мне сваю дасі руку ты
І з табой у шлях мы рушым...»

Тут паэт ў здзіўленні, але
Асцярожна рукой левай
Да пляча свайго да правага
Дакрануўся — і імгненна

Безбалесна аднялася
Яго правая рука;
А ўжо потым машынальна
Руку гэту прыкладае
Да бязрукага пляча
Сваёй госці — сваёй будучыні.

І рабіў так безадказна
Ён яшчэ таму, бясспрэчна,
Што істота тая тварам
Да яго была падобна,
Што спагада ў яго сэрцы,
Да сябе бы ажыла.

А яе, руку прыстаўленую,
Вокамгненна, цудадзейна
Да пляча госці прыросшую,
Бачыць ён перад сабою —
На узроўні воч сваіх.

І у гэты момант голас,
Патаемны голас госці
Слых яго апанаваў:
«Ну хадзем жа, мой абранец,
Ну хадзем хутчэй са мной!»

Працягнуў руку герой мой
Левую руку,
адзіную;
Госця ж, моцна яе сціснуўшы,
Паглядзеўшы ў вочы ўважліва,
(А сцяна у гэты момант
Хутка пачала сыходзіцца;
І калі ўжо толькі шчыліна
Паміж імі засталася)
На сябе як тузанула

І зларадасна, й бы помсліва,
Так што ў сценку ён урэзаўся,
З усяго размаху ўрэзаўся...

І імгненна тут прачнуўся,
І здалося, што пабачыў
На сцяне насупраць ложка
Пляму рэчыва жывога...
А ў ім палец напаўскручаны
Кіпцюром рыпіць-выводзіць:
«Мне отмщение и аз воздам».

«Вось дык сон, вось дык сустрэча! —
Так ляжаў сабе і думаў
Чалавек той, што паэтам
Нарадзіўся, ды не стаў ім,—
Вось дык сон, вось дык сустрэча!
Сам сябе... Сваёй рукою
Ледзь не знішчыў я сябе...
Вось дык сон, вось дык сустрэча!
Ну, а мо то абярога,
Каб далей я не каціўся?!»
Душ святло, бы сонца ззянне,
З па-над светам у саюзе;
А хто страціць сувязь тую,
Той і таленту, вядома,
Сам сябе навек пазбавіць.

# Змест

1

Радзіма — — — — — — — — — — — — — — — — 4
*** А жыццё ліхтароў... — — — — — — — — — 5
*** Вецер — нібы ў дзяцінстве... — — — — — — — 5
*** Каб па-людску, каб ладна жыць... — — — — — 6
*** Беларусь мая — хлеба бохан... — — — — — — 7
*** У польскі бок глядзіць «заходнік»... — — — — 7
*** Мне Захад з дзяцінства здаваўся вясною... — — — 8
*** На вуліцы падонкаў... — — — — — — — — — 8
*** Гэты едкі, цяжкі дым... — — — — — — — — 9
*** Мы — простыя людзі, мы проста жывем... — — — 10
*** Каб не сканаць у гэтай багне... — — — — — — 10
*** Казаў паэт, яму не трэба раю... — — — — — — 11
*** Няма ніякіх тут сакрэтаў... — — — — — — — 12
*** Хто пра зліццё талдычыць нацый... — — — — — 12
*** Народная гушча... — — — — — — — — — — 13
*** Сатана па свеце ходзіць... — — — — — — — — 14
*** Што гэты дзядзька толькі гад... — — — — — — 14
*** Здрайцы не толькі, калі вайна... — — — — — — 15
*** Яшчэ і той на Беларусі... — — — — — — — — 15
*** Не хачу быць у лесе рэхам... — — — — — — — 16
*** Казала Цётка: «Так і трэба!»... — — — — — — 16
*** Яго паэзія — бы вецер... — — — — — — — — 17
*** Ты параўноўваеш сябе з бярозкай... — — — — — 17
*** Ні адна з цудоўных песняў... — — — — — — — 18
*** З гадзінаў першых катастрофы... — — — — — — 18
*** Дакіраваліся кухаркі... — — — — — — — — 19
*** Чуе вуха, бачыць вока... — — — — — — — — 19
*** А я не святкую свядома Вялікдзень... — — — — 20
*** Не трэба, каб хтосьці... — — — — — — — — 21
*** Як можна жыць у горадзе, скажыце... — — — — 21

*** Хто многа маліўся... — 22
*** Што ні канфесія — то лічыць... — 22
*** Людзі слоў, натоўпу людзі... — 23
*** Дзе трэба пакутніцкі крыж нясці... — 23
*** Адкінутае нізкімі людзьмі... — 24
Паэт — 24
*** Не раз сябе я адчуваў... — 25
*** Скрабуць патэльні... — 26
*** Няхай есці ў нас не стане... — 26
*** Усё жыццё па-беларуску... — 27
*** Калі за саборам... — 27
*** Касцёл — харашун, прыгажуня — царква... — 28
*** У чыстым полі адпрадвеку... — 29
*** Якое высокае неба... — 29
*** За што загінуў ён, Грачанікаў... — 30
*** Беларусы мы ад роду... — 32
*** Яшчэ й таму ты не ў пашане... — 33
*** Беларуская мова — то боская мова... — 33
*** Мітрапаліту Мікалаю... — 34
*** На Зямлю мы забылі... — 34
*** Нагрудны крыж насіць я лёгка не магу... — 35
*** Калі газет чытаць замнога... — 35
*** На розных шляхах-дарогах.. — 36
*** За Сонцам, за зоркай кожнай... — 36
*** Хто рвецца да рыцарскіх латаў... — 37
*** Было б тут што пераварочваць... — 37
А. Я. Багдановіч. 1896, кастрычнік — 38
Язэп Драздовіч. 1914 г. — 39
Да партрэта Ларысы Антонаўны Геніюш — 40
*** Даваць весялосць здаровым... — 41
Слова пра Міколу Ермаловіча — 42
*** На плошчы твараў... — 45
*** Змяшаю будні, святы... — 46
*** Меней слоў, што душу закалыхваюць!.. — 47
*** Той паэт з усіх найлепшы... — 48
*** І ўсё, што нам душы мучыць, пячэ... — 49

*** Чаму не бачым мы НЛО?!. — — — — — — — 50
*** Хто хоча у горад на неба... — — — — — — — 51
*** У спустошаным краі... — — — — — — — — 51
*** Гляджу я на завалены ручай... — — — — — — 52
*** О,як было калісь прыемна... — — — — — — 53
Зорнай ноччу — — — — — — — — — — — — 54
*** Чым болей свой позірк... — — — — — — — — 54
*** Не ведаю, як хто; я ж асабіста... — — — — — 55
*** Я са смерцю іду на зблі жэнне... — — — — — — 55
*** Хачу, каб смерць была ўрачыстай... — — — — — 56
*** Каб мне па-людску паміраць... — — — — — — 56
*** Свечка — дзіда жывая... — — — — — — — — 57
*** Што можам светлае пакінуць на зямлі... — — — 57
*** Напоўнена жыць... — — — — — — — — — 58

2

*** Неба ў гарах... — — — — — — — — — — 60
*** Няма на зямлі ручаіны нат... — — — — — — — 61
*** Ад падножжа Сонца... — — — — — — — — 61
*** Ветрам зоркавым спавіты гэты вечар... — — — — 62
*** Хто слухае шум ветру, хваляў шум... — — — — 63
*** Прыгажосць не безадносная... — — — — — — 63
*** Няхай сабе й жудасна крышку... — — — — — 64
*** Для таго, хто разумны... — — — — — — — — 65
*** А сэрца Зямлі — звонку... — — — — — — — 65
*** На вуліцах... — — — — — — — — — — — 66
*** У горадзе гэтым... — — — — — — — — — — 66
*** Ці могуць быць прыгожыя там людзі?.. — — — — 67
*** О наш край!.. — — — — — — — — — — — 67
*** Асколак люстэрка ў дзюбе вароны... — — — — 68
*** Колер радасці нашай... — — — — — — — — 68
*** Я помню той час нялёгкі... — — — — — — — 69
*** Бы ў пячоры Паліфэма... — — — — — — — — 70
*** Зямля мне бачыцца цудоўнейшым сталом... — — 71
*** Не памятаю на зямлі дамоў... — — — — — — — 72

*** Хочацца верыць... — — — — — — — — — — — 73
*** Як прагнуў хуткасці чалавек!.. — — — — — — — 74
*** Ад радасці скача... — — — — — — — — — — — 75
*** Як стадыён раве!.. — — — — — — — — — — — 76
*** Чым больш калісьці білі іх па галаве... — — — — 77
*** На гэтай пустэльнай дарозе... — — — — — — — 77
*** Так многа на свеце людзей і ідэй... — — — — — 78
*** Складаны ён — ножык складаны нібыта... — — — 78
*** На полі мангола-татарскім... — — — — — — — 79
*** О сцены!... — — — — — — — — — — — — — 80
*** Адна пылінка дабрыні... — — — — — — — — — 80
*** Знішчыць спачатку мора... — — — — — — — — 81
*** Захацела душа чысціні... — — — — — — — — 82
*** Ты абавязан... — — — — — — — — — — — — 82
*** Як калісьці мураш у бурштыне... — — — — — — 83
*** Вялікім хто быць імкнецца... — — — — — — — 83
*** Вялікі!.. — — — — — — — — — — — — — — 84
*** Я не назваў бы чалавека гэтага сцяной... — — — 84
*** Божа!.. — — — — — — — — — — — — — — 85
*** Свабода!.. — — — — — — — — — — — — — 86
*** Так многа чытаць пра герояў... — — — — — — 87
*** Надпіс на адным магільным камені... — — — — 88
Эпітафія — — — — — — — — — — — — — — — 88
Дыяген у навейшыя часы — — — — — — — — — 89
З горка-ўсмешлівых прызнанняў Віёна — — — — 90
*** Народы, ўсе народы... — — — — — — — — — 91
*** Ах! Які мы народ... — — — — — — — — — — 92
На магіле Максіма Багдановіча — — — — — — — 93
Любоў Уітмена — — — — — — — — — — — — — 94
*** На мае недахопы і хібы... — — — — — — — — 95
*** Поўдзень... — — — — — — — — — — — — — 96
Светлае імя тваё, маці — — — — — — — — — — 97
*** Пад Слуцкам, над Случчу... — — — — — — — 98
*** Бы кропля расы... — — — — — — — — — — — 99
*** І гукі, і пахі, і лекі... — — — — — — — — — 100
*** Здольнасць... — — — — — — — — — — — — 101

*** Талент твой... — — — — — — — — — — — 101
*** Не надта дужаму... — — — — — — — — — 102
*** Паміж духам і плоццю... — — — — — — — 102
*** Не раз я бываў у бядзе... — — — — — — — — 103
*** На Чалавека вучацца таксама... — — — — — — 103
*** Звяла мяне птушка з дарогі... — — — — — — 104
*** І што ні гавары, і як ні ухваляй... — — — — — — 104
*** Мо болей ад усіх паэт не той... — — — — — — 105
*** Не, гэта не проста птушкі... — — — — — — — 106
*** Ніякіх рухаў!.. — — — — — — — — — — — 106
*** Ты бачыш, які ён самотны і голы... — — — — — 107
*** Каб толькі крылатымі... — — — — — — — — 108
*** Жыцця не хопіць, каб глядзець на ўсе дамы... — — 109
*** Не трэба наракаць... — — — — — — — — — 110
*** Няхай паветра толькі ты глыток... — — — — — 111
*** Калі з прорваю, з яе краем... — — — — — — 112
*** Гэту нітку, не змачыўшы... — — — — — — — 112
*** Калі нам вельмі добра... — — — — — — — — 113
*** Жывое дрэва... Будзь благаславёна!.. — — — — 114
*** Як добра сёння на душы!.. — — — — — — — — 115
*** Паэт!.. — — — — — — — — — — — — — — 115
*** Святло бясконцае нябёс... — — — — — — — 116
Рука (балада) — — — — — — — — — — — 117

**Гучок Я.**

Г97 Сэрцам і думкай: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 126 с.

ISBN 5-340-01403-7.

Зборнік складаюць вершы пра Радзіму, маральны свет чалавека, асобныя моманты ўнутранай біяграфіі некаторых прадстаўнікоў сусветнай і беларускай гісторыі і культуры.

Любоў да ўсяго жывога, філасофскае асэнсаванне быцця, гумарыстычна-сатырычнае ўспрыманне адмоўных бакоў нашага жыцця — асноўныя асаблівасці паэзіі аўтара.

**Г $\frac{8820600000—014}{М\ 302(03)—94}$ 37—94**

**ББК 84Бел7**

Літаратурна-мастацкае выданне

*Гучок Яўген Сяргеевіч*

СЭРЦАМ І ДУМКАЙ

Вершы

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак Н. Л. Анцімонава. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар М. Ц. Папкова. Карэктар К. А. Крукоўская.

ІБ № 4145

Здадзена ў набор 19.05.93. Падп. да друку 23.11.93. Фармат $70 \times 90^{1}/_{32}$. Папера афс. № 1. Гарнітура тып Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 4,68. Ум. фарб.-адб. 4,83. Ул.-выд. арк. 2,36. Тыраж 1500 экз. Зак. 279.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.